


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamleńni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 12 (634)**
**Сьнежань 2018 г.**


# Павольная сьмерць гумару і сатыры, альбо “клічце паліцыю - гэта ня сьмешна”

Кожнаму ўважліваму назіральніку кідаецца ў вочы перамена стаўленьня да жартаў і гумару ў заходнім грамадзтве. Мы ўсе робімся сьведкамі таго, як славутыя і багатыя людзі траплюць у грамадзкую апалу і ганьбаваньне праз свой кепліві пост на Твітары або няўдалы жарт у Фэйсбуку. Людзі апошнім часам стараюцца выбіраць больш нэйтральныя, непалітызаваныя тэмы для жартаў. Нават сустракаючыся ў коле сяброў і калегаў, прысутныя міжволі азіраюцца наўкола, ці не сядзіць дзе асоба, што магла б хібна патрактаваць сытуацыю.

Гумар і свабода слова былі заўсёды непасрэдна прывязаныя адно да аднаго пачынаючы з сярэднявечных часоў і з крытычных выказваньняў, якія дазвалялі сабе блазны пры дварах эўрапэйскіх каралёў. З прыняцьцем Магна-Карты, што абмяжоўвала каралеўскую ўладу, і ўмацаваньнем паняцьця habeas corpus, асабістай недатыкальнасьці, чалавек на захадзе Эўропы быў збольшага гарантаваны, што ягоныя дзеньні, у тым ліку і жарт у нейкім шынку супраць асобы, што надзеленая ўладай, будуць, як мінімум, разглядацца ў судзе, а не пацягнуць за сабою хуткую расправу па загадзе разьюшанага дыгнітара – князя ці магната.

Гэтая заходняя традыцыя апынулася ў кантрасьце зь сёнешнімі тэндэнцыямі ў галіне свабоды слова ў вольным сьвеце. На працягу апошніх гадоў, і асабліва з разьвіцьцём сеціва і сеціўных мэдыяў, стварылася сытуацыя, калі, дзякуючы прыкладаньню ідэалягічных догмаў паліткарэктнасьці й мультыкультуралізму, групы і паасобныя дзеячы зь лявацкімі перакананьнямі аднаасабна і сваволна ўзялі на сябе функцыі цэнзараў і мэдыйнай паліцыі.

Пачыналася гэта зь недарэчных емэйлаў, што славутасьці памылкова адсылалі ня тым асобам, для каго тыя былі прызначаныя – звычайна праз неахайнае ўжываньне каманды “Respond All”. Потым, з разьвіцьцём сацыяльных мэдыяў, паасобныя неабдуманыя, або проста нявінныя постынгі знакамітых асобаў, асабліва з шоў-бізнэсу, перапосталіся як прыклад нечульлівасьці да розных “запагрожаных” мяншыняў, або наўпрост – як “расізм” ці “нацызм”. Прыкладам – інтрнэткампанія супраць брытанскага прынца Гары ў нацыстоўскім Гэлаўін-строі, або маладая бэльгійская мадэлька Axelle, кар’ера якой скончылася пасьля пастаўленага ў сеціве здымку побач з застрэленай падчас паляваньня антылопай. Звычайна праз нейкі час, раней ці пазьней, асобы, якіх крытыкавалі, выступалі з прабачэньнямі. Перш гэтага было дастаткова. Затым сталі патрабаваць ахвяраваньняў на дабрачынныя фонды, якія прапаноўвалі “абражаныя” асобы. Пасьля гэтага таксама стала недастаткова для пакараньня – сталі чуцца заклікі да байкоту, да звальненьня з працы. Эфэктоўнай формаю ўплыву зрабіліся кампаніі па ціску на рэкламныя фірмы, што былі

***заканчэньне на бачыне 3***

## Шаноўныя сябры Згуртаваньня “Пагоня”!

Разам са сьнежаньскім нумарам “Вестак і Паведамленьняў” кожны падпісчык атрымае таксама **каляндар Згуртаваньня “Пагоня” на 2019 год** на 28 бачынак. Каляндар выдадзены абмежаваным накладам, але калі вы жадаеце набыць дадатковыя асобнікі каляндара, альбо ня ёсьць падпісчыкам бюлетэня, але хацелі б мець такі каляндар, то яго можна замовіць, напісаўшы ў рэдакцыю на емэйл адрас ***viestki@mail.com*** альбо наведаўшы старонку ***e-krama.com***

Кошт аднаго асобніка з улікам паштовай перасылкі **$8**.



Каляндар Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня
“ПАГОНЯ” на 2019 год



# Лістападаўскі сход Згуртаваньня "Пагоня" і прэзэнтацыя альманаху "Беларус" за 2018 год

У суботу 10 лістапада ў Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў лістападаўскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня". Напачатку старшыня сп. Віталь Зайка выступіў з паведамленьнямі пра бягучыя падзеі ў арганізацыі і таксама зрабіў абвестку пра сьвяткаваньне, супольна з аддзелам БАЗА ў Нью-Джэрзі, Дня Герояў – 98-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну.

Кіраўнічка групы "Беларусы ЗША. Разам лягчэй" сп-ня Ганна Шарко правяла нефармальную апытанку, каб лепш пазнаёміцца і зрабіць прысутных больш ангажаванымі, каб яны чуліся камфортней, перакідаючы мячык ад аднаго ўдзельніка наступнаму. Тыя, каму трапіў мячык, распавядалі пра сябе, адкуль прыехалі і чым займаюцца, адказвалі на адно з пытаньняў: "Які чалавек ці падзея найбольш уразілі ў Амэрыцы", "Самая дзіўная рэч", "Што больш за ўсё падабаецца тут", "У якім штаце хацеў бы жыць", "Чаго найбольш не хапае ў параўнаньні з Беларусьсю". Людзі выказваліся, часам прапануючы вясёлыя й неардынарныя адказы, як, напрыклад, Аксана з Мастоў, што сказала пра самалёт, які яе бос сабраў сам, або Соня, што распавяла пра зьмену культуры. Оля са Старобіна сказала, што найбольш дзіўная рэч для яе – гэта амэрыканская ежа.

Затым пачалася прэзэнтацыя альманаху "Беларус". Вядучы, славуты паэт і музыка сп. Сяржук Сокалаў-Воюш, перадаў слова заснавальніку, выдаўцу і рэдактару "Беларуса" сп. Марату Клакоцкаму. Той падзякаваў усім, хто прыйшоў на прэзэнтацыю, а таксама ўсім, хто даслаў ахвяраваньні ў выдавецкі фонд. Сп. Клакоцкі прачытаў прозьвішчы асобаў, што фундавалі выданьне сёлета. Цяперашні выпуск – ужо дванаццаты па ліку. На перадгісторыі стварэньня штогадовіка рэдактар спыняўся падрабязна ў папярэднія прэзэнтацыі, а цяпер прапанаваў пагутарыць пра некаторыя іншыя рэчы, і гэта найлепей было арганізаваць, калі прысутныя будуць задаваць пытаньні. Адказваючы на іх, сп. Клакоцкі распавёў пра аўтараў выданьня, сярод якіх ёсьць і тытуляваныя, што атрымалі літаратурныя прэміі, як Макс Шчур, і такія, што толькі пачалі пісаць, рэалізуючы сябе ў беларускамоўных тэкстах.

На пытаньне "Чаму робіце гэтую справу, што натхняе?" прамоўца адказаў, што напачатку думаў аб тым, каб надрукаваць літаратурныя творы, якія да яго трапілі падчас рэдактарства ў газэце "Беларус", і якія з-за негазэтнага фармату не маглі быць надрукаваныя ў газэце. А цяпер, калі аўтары даюць тэксты, працяг якіх заплянаваны на будучыню, дык ужо няма як спыняцца і перапыняць выданьне. Вялікую ролю мае зацікаўленасьць і попыт грамадзтва. Сп. Клакоцкі адказаў таксама на пытаньні пра найлепшы выпуск і найпрыгажэйшую вокладку. Ён таксама сказаў, што каля 50 асобнікаў выданьня штогод рассылаецца па бібліятэках у Беларусі, і адзначыў, што яшчэ каля 15 асобнікаў ідзе па навуковых ды ўнівэрсытэцкіх бібліятэках па сьвеце. Сродкі, якія зьбіраюцца на выданьне "Беларуса", пераважна ідуць на пакрыцьцё друку і выдаткаў па рассылцы.

Затым вядучы перадаў слова прысутным аўтарам сёлетняга нумару. Першым па альфабэце быў сп. Віталь Зайка. Ён коратка распавёў пра свой сёлетні твор, апавяданьне з сучаснага жыцьця ў Нью-Ёрку, адзначыўшы, што нягледзячы на прыдуманы сюжэт, у апавяданьні скарыстана шмат рысаў рэальных асобаў і сюжэтных лініяў з рэальнага жыцьця.

Затым вядучы прадставіў шматгадовую аўтарку сп-ню Валянціну Якімовіч, якая сёлета, нажаль, дзеля тэхнічных праблемаў не змагла даслаць для публікацыі свой твор. Сп-ня Якімовіч павіншавала сп. Сокалава-Воюша з прайшоўшым днём народзінаў і перадала кветкі ягонай жонцы сп-не Ганьне Бартуль, якая зьяўляецца музай і натхняльніцай свайго мужа. Сп-ня Якімовіч распавяла пра сваё знаёмства і творчае супрацоўніцтва са сп. Сокалавам-Воюшамна глебе беларускай нацыянальнай дзейнасьці.

Затым вядучы распавёў пра літаратурную суполку ў Наваполацку, у якой ён пачынаў свой творчы шлях, пра паэтаў ды іншых аўтараў, якія зрабілі першыя крокі ў Наваполацку, сярод сп. Алег Мінкін і сп-ня Іна Снарская. Прамоўца таксама распавёў пра творы сп. Зянона Пазьняка і сп-ні Марыны Кражовай у сёлетнім выпуску альманаху.

З аповядам пра сваю літаратурную дзейнасьць, яе пачатак і працяг перад прысутнымі выступіў аўтра сп. Аляксандар Хацкевіч. Ён распавёў аб працягу сваёй аповесьці "Замак на ўзгорку" і аб тым, што ўжо гатовая новая частка аповесьці. Прамоўца спыніўся на прычынах сваёй зацікаўленасьці ў прагістарычных і паганскіх часах на беларускіх землях, і затым адказаў на пытаньні прысутных.



Затым сп-ня Ганна Шарко прынесла торт з надпісам "12-ты выпуск альманаху" і дала сп. Клакоцкаму запаліць агенчыкі на торце. Прысутныя шчыра павіншавалі і падзякавалі рэдактару за ягоную актыўную выдавецкую дзейнасьць і пажадалі плённага працягу яе.

Затым жадаючыя мелі магчымаць набыць сьвежы выпуск альманаху, а таксама ўсе папярэднія, і атрымаць аўтографы ад рэдактара і ад прысутных аўтараў. Размовы й абмеркаваньні доўга працягваліся ў прыемнай кампаніі за віном, тортам і смачнымі пачастункамі.

**Віталь ЗАЙКА**

# Сьмерць гумару і сатыры

заканчэньне з бачыны 1

зьвязаныя з асобнымі артыстамі й спартоўцамі, а таксама перадачамі, тэлеканаламі.

Дайшла чарга і да палітыкаў. Многім мэсыджы ў інтэрнэце сталі каштаваць кар'еры, а то і – свабоды. Часам гэта было зусім слушна, як пакараньне Энтані Вайнэра, кангрэсмэна і кандыдата на мэры Нью-Ёрку, што ў брыдкі спосаб камунікаваўся зь непаўналеткай, або звальненьне мэра Дэтройту К. Кілпатрыка за "сэкстынг"-мэсыджы. Неахайныя і немаральныя дзеяньні цалкам слушна выклікаюць наступствы. Але часьцяком наступствы сталі выкліцацца проста палітычнымі ды сьветапоглядными перакананьнямі аўтараў. І тут сапраўды робіцца не да жартаў.

Некалькі год таму падчас пад'ёму мусульманскага фундамэнталізму ды ісламскага тэрарызму, сотні людзей на Захадзе зрабіліся ахвярамі пагрозаў тэрактаў або страцілі здароўе і жыцьцё. Сярод найбольш вядомых выдкаў, зьвязаных з гумарам і свабодай слова, сталі кампанія супраць Даніі й газэты Jyllands Posten за карыкатуры на Магамэта, і тэрарыстычны напад на сатырычны часапіс Charlie Hebdo ў Парыжы. Сымптаматычна, што амэрыканскі ПЭН-клюб, які, здавалася б, мусіў стаяць на абароне свабоды слова і права на сьмех, пасьля няўцямнага нібы-асуджэньня тэрарыстаў выступіў з досыць яснай і рэзкай крытыкай часапісу Charlie Hebdo. Па левардыкальных паняцьцях, "віктымнасьць" так званых нябелых народаў стаіць вышэй за правы і свабоды грамадзянаў вольнага сьвету.

Зусім гратэсковай робіцца сытуацыя з свабодаю слова і гумарам на ўнівэрсытэцкіх кампусах у Злучаных Штатах. Асуджаюцца кожны выступ або прэзэнтацыя, што ў любы, самы нацягнуты і фантастычны спосаб могуць быць асацыяваныя з расізмам або непавагай да сэкс- і гэндэр-мяншыняў. Наступствы, адпаведна – дэфамацыя, байкот, страта працы. Прычым усё гэта адбываецца па прыхамаці самазваных даглядчыкаў "ідэалягічнай чысьціні", без належнага судовага разгляду, што меў бы сэнс быць падключаны ў выпадках, калі так сур'ёзна закранаецца лёс абвінавачанага чалавека. Лявацкая прафэсура выступае завадатарамі усё новых, і ўсё больш вар'яцкіх мераў кантролю за сацыяльным дыскурсам на кампусах, у масавых сродках і ў грамадстве наагул. Самацэнзура стала штодзённым фактам інтэлектуальнага жыцьця ў Злучаных Штатах – нібы ў якой Паўночнай Карэі або Вэнэсуэле!

Не абыйшла гэтая тэндэнцыя і непасрэдных вытворцаў гумару і сатыры – артыстаў тэлебачаньня, комікаў і камэдыянтаў. Многім яшчэ на памяці звальненьне ў траўні артысткі Роўзан Бар і закрыцьцё высокарэйтынгавай перадачы "Роўзан" – за адзін твіт, што назвалі расістоўскім у адносінах да былой дарадчыцы прэзыдэнта Абамы. Левалібэральны бог "няроўна дзеліць" – жарты любога, самага нізкага кшталту пра кансэрватараў і прэзыдэнта Трампа – вітаюцца і ўхваляюцца. Жарты пра левакоў і дэмпартыю – караюцца самым жорсткім чынам. Пачынае працаваць лявацкая "машына абурэньня", якую ўключаюць па розных патрэбных левакам нагодах – ад назвы футбольнай каманды "Вашынгтонскія чырвонаскурыя" да быццам бы непаважлівага стаўленьня да абвінаваўцы судзьдзі Кавана. Комікі, што дазваляюць сабе жарты, якія не адпавядаюць пазыцыі дэмпартыі й лявацкай ідэалёгіі, трапляюць у чорны сьпіс, іхныя праграмы адмяняюцца, выступы касуюцца, і ў выніку коміку прапануецца заняць адмысловае месца ў мэдыях, большасьць якіх падтрымліваюць лявацкую пазыцыю – праз жарты праводзіць "лінію партыі", якую праз камэнтары, прэзэнтацыю навінаў і аналітычныя агляды праводзіць рэшта супрацоўнікаў гэтых мэдыяў. Але жарты, скіраваныя супраць Трампа, рэспубліканцаў і кансэрватараў, а таксама супраць "глыбіннай" Амэрыкі, хрысьціянства, "рэднікаў", мармонаў, паліцаяў ды ўсіх іншых, каго левакі ўважаць часткаю "цёмнай імпэрыялістычнай-капіталістычнай змовы супраць чалавецтва" – робяцца штораз нясьмешныя, штораз больш падобныя на ўсплеск нянавісьці.

Скарыстаўшы дэструктыўную сілу камэдыі супраць традыцыйных каштоўнасьцяў і перакананьняў у грамадстве, супраць хрысьціянскай рэлігіі й манагамнай традыцыйнай сям'і, і, атрымаўшы перамогу ў "вайне закультуру", левакі хочуць цяпер паставіць пад свой кантроль камэдыю і гумар. І гэта зусім ня сьмешна.




Вядомы тэлевізыйны гумарыст і аўтар, "кароль камэдыі" Джэры Сайнфэльд заявіў пра скасаваньне сваіх выступаў на ўнівэрсытэцкіх кампусах. Моладзь, па ягоных словах, "ня можа слухаць выступы без таго, каб рабіцца абражанай і пакрыўджанай... Яны хочуць карыстаць фразы: "Гэта сэксізм", "Гэта расізм", "Гэта забабоны" – зусім не ўяўляючы пра што яны гавораць. Здольнасьць вызначыць гіпэрбалу, мэтафару, сатыру – абсалютна не прышчэпленая."

Тое, што левакі дасягнулі на цяперашні момант – татальны кантроль сыстэмы адукацыі й блізкі да татальнага кантроль тэлевізыйных і друкаваных мэдыяў – робіць іх падобнымі да таталітарных рэжымаў мінулага, і, магчыма, што для здабыцьця абсалютнага кантролю над грамадзтвам ім і не спатрэбіцца захоп, скажам, Пэнтагону або ЦРУ – бо і там сёньня ўжо сядзяць, як ведаем, гадаванцы лявацкай сыстэмы адукацыі з прамытымі мазгамі. Але захоп камэдыі й гумару будзе значна складанейшы, калі мажлівы наагул – бо гумар і таталітарызм абсалютова несумяшчальныя.

**Віталь ЗАЙКА**

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Краўдф**інг

Краўдфандынг – як сучасная форма жабрацтва. У нашай цывілізацыі жабрацтва заўсёды ўспрымалася як нешта адмоўнае. Адмоўным была не сама нястача ці беднасьць, а менавіта форма заняткаў. Ну бо калі здаровы, працаздольны чалавек замест пайсьці на любую працу аддае перавагу кленчаньню, то гэта да нядаўняга ўспрымалася грамадзтвам адназначна. Дарэчы, па статыстыцы на 100 жабракоў, толькі 10 сапраўды знаходзяцца ў патрэбе. Для астатніх – гэта форма атрыманьня сродкаў і стыль жыцьця. Што тут казаць, калі некаторыя жабракі зарабляюць на ўзроўні мэнэджэраў. Калі два паліцэйскія з Аклагома-Сіці ехалі каб затрымаць жабрака на аўтастрадзе, то былі перакананыя, што на месцы ўбачаць бруднага і хворага чалавека. Але там быў добра складзены 45-гадовы мужчына, апрануты ў кашулю ў кветкі. Мужчыну звалі Шэйн Ўорэн Спігл. “А дзе б я столькі зарабіў?” – адказаў ён паліцэйскім. “Летась зарабіў 60 тысяч даляраў і не плаціў зь іх падатак”...

А чым іншым зьяўляецца краўдфандынг (талака), у якім грошы зьбіраюцца на канкрэтную тэму, працу, замову. Здавалася б, што ўсё даволі справядліва і згодна з цывілізацыйнымі патрабаваньнямі. Прыхільнікі скідваюцца на творчасьць свайго куміра. Усё адбываецца на рынкавай аснове. Ёсьць попыт – ёсьць і прапанова, але... Усё ў гэтай сытуацыі як раз такі перавернута дагары нагамі. Напачатку ідзе прапанова і прапанова гэтая падладжаная пад публіку, але больш за ўсё лічыцца не сама прапанова, а імя і распазнавальнасьць прапанавальніка. Балянс паміж прапановаю і попытам размываецца за кошт колькасьці падпісчыкаў. Ты папулярны і запатрабаваны таму, што ты папулярны і запатрабаваны, а якасьць чарговага прадукту недзе там убаку. Папулярнасьць таксама патрабуе ахвяраў. Калі ты хочаш быць папулярным, то павінен адпавядаць пэўным нормам папулярнасьці. Думаць і выказвацца трэба правільна. Ты ж музыка, ты ж мастак ці пісьменьнік, табе для існаваньня патрэбная аўдыторыя. Ня будзе жа ты рэзаць матку-праўду і гэтым самым пазбаўляцца ад прыхільнікаў.

Куды не павернешся, вакол адныя краўдфандынгі. Адсотак прыкладна такі ж, як і ў жабракоў. 10% тых, хто па іншаму і ня выдалі б і не надрукавалі б, а 90% тых, для каго гэта стыль функцыянаваньня. Мы папулярныя, мы вядомыя. Нам павінныя. Што ўжо казаць, калі нават скандальная наблістка нядаўна зьбірала ў шапку на беларускія пераклады сваіх “проізведеній”. Уражаньне такое, што ў будучыні ніхто і пальцам не кіўне, каб запісаць альбом, напісаць кніжку або намаляваць карціну, пакуль папярэдне ня будуць абскубаныя авечкі. Таму лішні раз варта задумацца – ці варта ўдзельнічаць у перакульванні здаровых стандартаў нашай цывілізацыі – “Перш зьядзім тваё, а тады хто сваё” (беларуская прыказка).

**Віталь ВОРАНАЎ**




**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**

***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” *Viktar Yedzinovich.***

**Аплаціць складкі можна таксама на штомесячных сходах арганізацыі.**

*Паважаныя падпісчыкі “Вестак і Паведамленьняў” **В. Аднавораў, А. Волкава, В. Галянкова, І. Маладзёнаў, І. Чарнова-Буле, Д. Скрабец і А. Сьвістун** калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **8-га сьнежня 2018 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак Дома Маракоў знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.
Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

**А. Кавальчук .............30**
**В. Кузьменка .............30**
**В. Трыгубовіч ............30**
**К. Верабей ................25**

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

*Рэдакцыя бясплатна надрукуе прыватныя абвесткі і будзе ўдзячная за дасланыя для друку артыкулы, водгукі й лісты.*